# георгій юрчанка





# немеладычныя мелодыі



**Георгій Юрчанка**

# Немеладычныя мелодыі

ПАРОДЫ І ЭПІГРАМЫ

ПАРОДЫ І ЭПІГРАМЫ





Бел 2
Ю 83

*Шмат хто, мусіць, прыпомніўшы пару-другую далёка не пахвальных эпітэтаў, скажа, што вось сякі-такі Юрчанка напісаў пародыю, пасмяяўся з яго, больш ці менш прызнанага і заслужанага. Доля праўды ў гэтым, безумоўна, будзе, але толькі доля, і прытым не галоўная.*

*А галоўнае ў тым, што гэта ж сама беларуская літаратура дасягнула такога ўзроўню сталасці і ўзмужнення, што спарадзіла сваю пастаянную і неад'емную спадарожніцу — літаратурную пародыю.*

*Адным словам, перад чытачом кніжка пародый і эпіграм, а гэта значыць і поўная падстава для нечай пародыі ці эпіграмы.*

*У добры час!*

*Аўтар*

Ю $\frac{70403-117}{М 302(05)-74}$ 67-74

# СПАМІНЫ

## ВЯЧАСЛАЎ АДАМЧЫК

Спамінаецца...

Пад'еўшы хармушкі, заціркі са здорам і забеленай сачыўкі, кладу маскаль у кішэнь палітона і кіруюся на прыпынак. Іду міма бярозавага пня. Рыхтык такі стаяў на дзедавым котлішчы яшчэ за польскім часам. Сок на ім ружавеў і броснеў. Па сцукраванай плешыне поўзалі мухі.

Цярэз дарогу ўлукаткі перабягае верабей з пёрынай у дзюбцы. Ладны выліняў, мусі, умее гэльцаць...

Выстойваю, балазе, нядоўга. Падыходзіць знябожаны аўтобус, недалэнга бразгаючы жалезным нутром і знясілена сапучы. Сцішна адчыняюцца заточаныя лапікам дзверы. Унутры стаіць нягучная гамана.

— Нех бэндзе похвалёны! — кідаю я ўваходзячы. Возьдзека на мяне ноль увагі.

Аўтобус тымчасове нездароўча фыркае, ажні войкае; з натугай і перабоямі пачынае

гусці матор, набіраючы цёнгу. Відавоч не нара́віць вышчарблены брук.

Што стаяцьме. Мала-веле павагаўшыся, саджуся на жаднае слабоднае мейсца, з палосамі пылу.

— Ланно, ніц собе, пан не ве,— разважаю пра сябе. Сяджу маўчучы. Спамінаю...

Вобак сядзіць слічная і досць пажондная кабета, дзябёлая і бялявая, з ядроным румянкам. Мне ў той жа мэнт цюкнула ў голаў усё брыдкае і маладое. Я адразу панаравіў кабету, ажні засціпалася сэрца: з такой можна дзеразавацца.

Ужо адвяртаюся. Але нейкі магнэз неадольна заманьвае мой зірк да суседкі.

— Цо таке, вашэці, ву-у-уньдзека тамака? — пытаюся ў кабеты, паказваючы на стрымбулі ссохлых вяргіняў за акном. Гэта — каб загаварыць.

— Не вем,— коратка кідае кабета, папраўляе на каленях ценжарны ванзэлак і адварочваецца.

— Як пшэйсць до Дзёнцёлаў? — зноў спрабую ўступіць у гоман.

Кабета глянула сцішана і жаўтавата. Мусі, не паразумела маю слічную жаднасць да сваёй асобы...

Спрабую пакласці на яе калена руку...

Далей, пшэпрашам, чэгось ніц не паментасцца.

# ОДА ПРА ЧЫГУНОК

## МІКОЛА АРОЧКА

Я пеў,
    прадзьмуты свежым ветрам,
. . . . . . . . .
    Сёння слаўлю цябе, чыгунок.

Я пеў упэўнена, прывычна,
Як пеў прапрадзед мой калісь.
Гучала песня сіметрычна,
Лунала ўдоўж, ушыр і ўвысь.

Яна спыняла посвіст дзікі
Вятроў, што бралі дальні крос,
І сонца плавіла ільдзінкі
Ў трыццаціградусны мароз.

Пры гуках песні той нязменна
Спынялі дзятлы перастук,
Грачыны грай змаўкаў імгненна,
І лез са снегу цецярук,

Ў ваўка мякчэла сэрца крышку...
Пад песню гучна, як нідзе,
На грушы лопалі пупышкі,
Гуркі ўздыхалі на градзе.

І кожнаму цяпла ставала
На самым лютым скразняку,
Бо песня велічна гучала
Ўрачыстай одай чыгунку!

# ВЯСНОЙ

## АНАТОЛЬ АСТРЭЙКА

Сонца вясенняе свеціць.

. . . . . . . .

Сад апранаецца ў квецень.

. . . . . . . .

Качкі шумяць у затоках,
Бусел стаіць на страсе.

Многа вясной прыгажосці,
Квецені, ззяння, цяпла.
Зноўку ва ўсёй маладосці
Існасць зямлі расцвіла.

Мчацца на выган цялядкі,
Следам авечкі бягуць.
Іхнія дзеткі — ягняткі
Надта пяшчотна бляюць.

Рэчка ў няспыннай турботе
Поіць лугі і гаі.
Бусел па ўласнай ахвоце
Жабу ганяе ў куп'і.

Гнёзды віць з выраю птушкі
З крыкам спяшаюць хутчэй.
Певень за рабай нясушкай
Мчыцца шпарчэй і шпарчэй.

Клён на зары выкідае
Клейкі духмяны лісток.
Бабка з унучкай злівае
Ў цэбар бярозавы сок.

Муж хоча вырвацца ў госці,
Жонка цікуе услед.
Грэе на сонейку косці
Дзед па мянушцы Міхед.

Сэрца вясной летуценіць.
І без клапот, без турбот
Словы напеваў вясенніх
Самі кладуцца ў блакнот.

# МОЦНЫ ВУЗЕЛ

АЛЕСЬ БАЖКО

Янук тры дні касіў авёс,
Пранук ляшча дамоў прынёс,
Адась заходзіў да ўдавы,
Клімась ад пернікаў адвык,
Рахцей наведваўся ў касцёл,
Басцей любіў прымаць ацёл,
Здзіслаў будуе сыну клець,
Часлаў магерку хоча мець,
Гусцін абсек суччо з вярбы,
Альбін са смакам еў грыбы,
Карпусь ячмень убраў без страт,
Самусь гарэлцы вельмі рад,
Ксавер прасіў купіць бязмен,
Сільвер на печы спіць без змен,
Пятраш паўдня ачэсваў клец,
Дзямаш ваўку зрабіў амбец,
Тадзей калісьці быў салдат,
Гардзеў захоўваў цэлібат,
Мітрох падаўся на абед,—
Вось гэта, братачкі,— сюжэт!

# У НОВЫХ БОТАХ

РЫГОР БАРАДУЛІН

Салют, дзятва!
                    Без выкрунтас
Дакладна ў час прызначаны
На самы Новы год да вас
Прытэпаў я з Ушаччыны.

Валёнкі скінуў.
                    Хопіць прэць!
Агораў боты новыя,
Абуў — і ўраз пайшлі рыпець:
Руб пяць...
          руб пяць...
З паловаю.

Кажух жа прыйдзецца цярпець —
Ён дзедам мне падораны,
А знят з мядзведзя.
                    (Той мядзведзь
Быў дзедам аб'ягораны.)

Дык што ж, дзятва, вы робіце?
Ці час дарэмна гробіце?
Не трацьце час дарма-такі —
Вучыце лепш граматыкі.

А боты новыя рыпяць:
Руб пяць...
                    руб пяць...
Паслухаеш — эстэтыка,
Ну, чым не арыфметыка!

Яшчэ, наколькі петру я,—
Патрэбна геаметрыя.

А боты новыя рыпяць:
Руб пяць...
                    руб пяць...
І рып іх слухае ўвесь свет.
Ало.
        Пакуль.
                    Пайшоў.
                                Прывет.
Руб пяць...
                    руб пяць...
Цішэй,
            цішэй.
                    І не чуваць...

# КАРАГОДНАЯ

ДАНУТА БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА

> **Карагод каля варот**
> **Водзяць хлопцы-акуні.**

Шырай вуліцу, народ,
Мой падолак не крані.
Карагод каля варот
Водзяць хлопцы-акуні.
А я міма плотачкай,
Плотачкай-малодачкай,
Спрытна хвосцікам вільну,
Хітра хлопцам падміргну.
Ну-ка, лешчык, ну-ка, лінь,
На мяне паглядам кінь.
Мень у танцы бліжай-далей,
Штось не гляне, не зірне.
Быццам Нёманавы хвалі,
Ходзяць грудзі у мяне.
Я адна да відна,
Хлопцам не прынада.
Мне сарвануша-ўюна —
І была б я рада.

# НА ПЕРАВАЛЕ

ПЯТРУСЬ БРОЎКА

> **Кацярына!.. Кацярына!..**
> **. . . . . . . .**
> **Паловы не люблю ва ўсім.**
> **. . . . . . . .**
> **Я, можа быць, на перавале —**
> **Ой, што мне бачыцца цяпер!..**

Кацярына, Кацярына,
Ты з палескага сяла
Па жыццёвых каляінах
Гэткі шлях са мной прайшла!

А навокал, Кацярына,
Розных цудаў не злічыць.
Бачу: дзеўчына ля тына
Вісне ў хлопца на плячы.

Буду шчырым, Кацярына:
Я натэпаў шмат гадоў.
Ды мільгне ў натоўпе міні —
Прысвяціць ёй верш гатоў.

І павер мне, Кацярына,—
Толькі слухай і маўчы,—
Не люблю я палавіны
Анідзе і ані ў чым.

Вось таму ў старанні звычным
Не для славы ці пахвал
Ўзяў я энцыклапедычна —
Паэтычны перавал.

Я цябе не кіну-рыну,
Забяру ў густую сінь,
Каб ты знала, Кацярына,
Што мне бачыцца з вяршынь!..

# МОЙ ШЛЯХ

## АНТОН БЯЛЕВІЧ

**Многа зім і многа лет**
**Пражываю ў Мінску я,**
**Дарагі мой сельсавет,**
**Родныя ды блізкія.**

Мне была дарога ў свет
І прамой, і гладкаю:
Штамп паставіў сельсавет
Ды падбіў пячаткаю —

І пайшоў я, і пайшоў
З торбай адмысловаю.
Нёс я спевы салаўёў
У сталіцу новую.

Многа зім і многа лет
Пражываю ў Мінску я,
Дарагі мой сельсавет,
Родныя ды блізкія!

Сніцца мне, як ля ракі
Вербы гуртам моляцца.
Мчацца ўбрыкі стрыгункі —
Сквіл на ўсю аколіцу.

Летам радуе прыплод
Парасятак тлусценькіх,

А ў завею кожны год
Целяцца пярвусцінкі.

Родны кут! Бягуць гады.
Я служу табе заўжды
Праўдаю і вераю:
Важу вершы на пуды,
Вёрстамі іх мераю!..

# НЕ ГУБЛЯЙЦЕ

ВАСІЛЬ ВІТКА

> Стойце, перад гісторыяй замрыце.
> Пішаце вы для нашчадкаў! Пішыце...

Адчуваю: даўно пара.
Да падарожжаў прывычны я.
Уладна вырываецца з-пад пяра
Камандзіровачна-геаграфічнае.

Вітаешся раніцай: «Гамарджвэба!»
У абед з хваляваннем: «Салям!»
«Лаба дзена!» — трэніравацьтрэба,
Каб сказаць без акцэнту сябрам.

Шлях цяжкі да гумна Ашаўнёва —
Не гасі пачуццяў напал.
І, разгледзеўшы крыху панёвы,
Зноў спяшай.
Дзеля рыфмы — ў Капал.

Будуць нашчадкі дзівіцца,
Вывучаючы кожны наш крок.

---

Не! Не павінен згубіцца
Ніводзін радок!

# КАНЧАТКОВАЕ РАШЭННЕ

МІХАСЬ ВЫШЫНСКІ

Ужо застаўся позаду Затыкін камень, пратапырылася заводдалі Ячмянёва лазня, і папярэдзь замільгацелі ядроныя стрэхі самой Капытоўкі. Мыкод, уёмісты і нехапатлівы, задумна гробся ў бок вёскі. Ён даўно звярнуў з разгоністай шашы на ўтравелую сцяжынь. Яго, здаецца, не зачэпаў ні хмелісты водар траў, ні заглуш пер'істага сітняку ў Хвэлевай канаве, ні рабістыя каровы, што пакінулі развагу аб упадзенні ў шкоду і пакорліва пакла-ліся на жуйку. Рапатліва Мыкод спыніўся і, нібы працяты, усмешліва павёў брывом:

— Так, хопіць нудоціцца, трэба прымець жонку. Бо што дзеецца: чуця вымерхаешся, ядзяня няма. Дый не галапунец ужо, а жывоцісты здаравец. Пад трыццаць пругка мецімца. Два дыпломы ў кішэні, кватэра на тры пакоі. Пара аціхнуць душой.

— Аднача, хто ж яна будзе,— лезла наглі-цай думка.— Трэба, каб далі душы апослячы

работы азорвала сонца сяброўства. Але спрабуй раскусі-ткале яе.

Праз малавеле крокаў Мыкод зноў прыстояў і пазыбаўся.

— Вобчам, шукаць трэба з одумам. Каб перамовы потым не цегліся ні позадам, ні паперадзу. Каб не пад'язычвалі службоўныя калегі, прагныя на розныя почуты. Дый каб з фулюганамі не зналася. Намана жаніцца не выпадае,— гадзіўся Мыкод сам з сабой.

Яму было не ў знак ні зацятая немата прысцежкавых камянёў, ні пчалісты звон у дзёнцай дрымоце поўднiку. І раптам Мыкод выпрастаўся і знерухомеў. Першародная лёгкасць зыбнула голаў:

— Яна будзе свінаркай. Так, Доня Бібкіна, што сустрэлася на пазалеташняй нарадзе. Не трэба гарадская, з ёй адно нязбыўны клопат. А Доня, поўная неспатольнай жаночай сілы і счараваная яго мужчынскай уладай, адорыць шчасцем. Будуць шчасныя дні і яшчэ шчаснейшыя ночы. М-м-м...— будзе яна смаката. Яе агнянае цяпло растопіць яго гнятлівы настрой.

Тут жа намысліў:

— Як жа будзе з працай? Ад горада да Капытоўкі сорак вёрст. А працу кідаць Доня не схоча.

Амаль на месцы супакоіўся:

— Куплю «Волгу». Выспаўшы ноч, наранкі

спасцярожліва падкіну Доню да свінафермы. А нацямку пасля дзённай пераўтомы вёртка падскочу зноў. А там і сама вывучыцца весці машыну, будзе ездзіць адна.

Сумненняў больш не адшукалася. І Мыкод струнка пагабляваў у бок свінарніка.

# НА ДРОВЫ

АНАТОЛЬ ВЯРЦІНСКІ

Да сонца цягнучы галіны,
Расла разлатая яліна
З наростам-шышкай на камлі.
...І вось мы да яе прыйшлі.
Прыйшлі з нагостранай сякерай,
Прыйшлі з разведзенай пілой,
Прыйшлі гарачыя не ў меру,
Прыйшлі без літасці і веры,
Прыйшлі... —з якім прыйшлі намерам?
Прыйшлі!
А з мэтаю з якой?!
Прыйшлі,— піла ў руках запела,
Яліна дробна задрыжэла
Усім сваім яловым целам
І — грымнула ўніз галавой.
А мы яе —
чацвертавалі,
Услед затым —
васьмеравалі,
Пасля —

фурманку падагналі *,
Кражы на воз ледзь-ледзь усклалі,
Ледзь падымаючы з зямлі...
О жах!
Дзе ж спаў наш дух здаровы,
Калі без лішняе размовы
На дровы! —
Чуеце? —
На дро-о-о-овы!!! —
Яліну ў вёску мы вязлі...

---

* Кабылу Машку гэтым часам
Прыгнаў Пятрусь Макаль з Парнаса.

# ЗНОЎ ПРА ЗАГАДКУ ПРЫРОДЫ

СЦЯПАН ГАЎРУСЁЎ

> **Вы чалавека снежнага шукалі...**
> **Гэта — я.**

Без лютай зайздрасці і смеху,
Не апускаючы павек,
Качу рулон бясконцы снегу
Я —
самы снежны чалавек.

Вышэй і ўперад! — майна-віра!
З губамі — парай ледзяшоў —
Храбты Цянь-Шаня і Паміра
Я ўдоўж і ўпоперак прайшоў.

Хачу пасведчыць урачыста,
Сяброў не ўводзячы у зман:
Мяне не спыніць снег вячысты,
Вячысты снег і ураган.

Таму шляхі мае крывыя
Прамы пранізвае прамень;
І я ў вышыннай летаргіі
Званю снягурачцы штодзень...

# КАХАННЕ І ВОСЫ

НІЛ ГІЛЕВІЧ

**Жнівень, арэхі і жоўтыя восы,**
**Што заміналі цябе цалаваць.**

Жнівеньскі бор з асалодай цнатліваю
Шэпча, таемна ўздыхае і крэхае.
Дзікай высочанькай козкай пудліваю
Стрэў я цябе за кустом за арэхавым.

Прагна уся ты ў абдымкі імкнулася,
Лашчылі вочкі з павекамі-крыльцамі,
Губы да губ гэтак смачна цягнуліся,
Раптам... арэх зверху бац па патыліцы.

Тут як на грэх восы жоўтыя кучаю
Рынулі,— скуль іх нанесла нячыстая...
Наша каханне навечна раскручана,
Знікла бясследна імгненне ўрачыстае.

Ў жнівеньскіх росах з тых пор не купаюся,
Цягнуць арэхі на роздумы сумныя.
Восы! — ад іх я і ў снах адбіваюся!..
Што ж натварылі вы, мошкі бяздумныя...

# СПЯШАЙЦЕСЯ

## АНАТОЛЬ ГРАЧАНІКАЎ

> І ціхіх дум дрыготкае свячэнне
> Павольна узыходзіць нада мной.
> . . . . . . . . .
> У лясы пабрыду адзін.

Люблю прайсці па сонечных пасёлках,
Знаёмы ўсім і ўсім дашчэнту свой.
І трапяткія думкі, як анёлкі,
Лунаюць над маёю галавой.

Мяне сустрэць ласі шыбуюць з лесу,
Зязюлі звонка мне гады куюць,
Насустрач мне вужы са скуры лезуць,
Мне совы, як наложніцы, пяюць.

Мяне на розных перавалах трэсла,
Любыя мне нягоды па плячу.
Самаспапелены,
самаўваскрэслы,
Я на Алімп, акрылены, лячу.

Лячу!..
А погляд флоры ўсёвідушчай
Настойліва слізгае па спіне.
Дык покуль я яшчэ не збег у пушчу,
Спяшайце наглядзецца на мяне!..

# КАХАННЕ І КРУПНІК

## МІКОЛА ГРОДНЕЎ

Да Ігната і Мальгрэты ніяк не падыходзіла казань «Чорт чорта пазнаў дый на піва пазваў», бо з першага зірку відаць было, што адно з іх гарачка, а другое балячка. Нават гаспадыня, у якой яны здымалі асобныя пакойчыкі-бакавушкі, не раз, бывала, перасмыкнуўшы плячамі, гаварыла:

— А няго ж, мае людцы, не. Гэта ж чорт, пэўна, не адну пару лапцей стаптаў, пакуль звёў іх. Ён выдыгае перад ёю, а яна нібы і не бачыць. Жывуць жа побач, праз сценку, але яна яго ні нагою цераз парог да сябе. Сустракаюцца, бач ты, на кухні.

Сапраўды, зразумець іх было цяжка. Мальгрэта то была адна мяккасць і згаворлівасць, то ў яе серада высільвалася перасягнуць праз аўторак, а субота заскоквала за пятніцу. Любіла яна хварсануць агністымі кудзеркамі, магла, казырнуўшы, кульнуць чарку і

тут жа другую папрасіць. А то, здаралася, першага сустрэчнага хлопца цмокне як свайго і часам калі адзычыць каму ўсмешку, дык у таго цэлы тыдзень гармонікі ў душы.

А на любошчы была ўнадлівая і Ігната кахала шчыра і самааддана. Кожную раніцу Мальгрэта ўставала першай і ціхутка, каб нікога не патрывожыць, шмыгала на кухню і там завіхалася, варачы поўны чыгунок крупніку для Ігната. Гэтак жа ціхенька яна выходзіла з дома, спяшаючыся на завод. Ігнату выходзіць было на дзве гадзіны пазней, і ён яшчэ соладка пахропваў за перагародкай.

Справа грунтоўна і пэўна ішла к вяселлю — і трэба ж было намянташыцца гэтай Парасцы, Ігнатавай суседцы па станку. Прыліпла і прыліпла ў чацвер да хлопца: я цябе праводжу дадому. Ігнат і так і гэтак адкаraскваўся — дык не: павісла на руцэ і пацягнулася амаль праз увесь горад, рагочучы ледзь не на тры кварталы. Мальгрэта якраз стаяла ля акна. Аж зірк — вядзе Параска Ігната і гэтак шчыльненька прылягае да пляча. Яе ўсю аж у калатэчу кінула, а наступная думка што кіпенем ашпарыла:

— Дык за што ж я табе крупнік варыць буду, гіцаль ты гэтакі? Бач ты, іншых водзіць, а пра мяне, мусіць, і не шманае. Нялюбы ты мне! З вачэй далоў і з сэрца вон!

Калі ранкам, як звычайна, выйшаў Ігнат на кухню, каб з'есці талерку густога наварыстага крупніку, яго стрэла перавернутая ўверх дном каструля. Яна нібы гаварыла: вось палюбуйся на мяне разам са сваёй Параскай. Ігнат адразу зразумеў: каханне скончылася назаўсёды...

# РЫФМУЮ

## АВЯР'ЯН ДЗЕРУЖЫНСКІ

Я, рабяты, тараваты,—
Не хачу таго хаваць.
І сягоння зухавата
Навучу вас рыфмаваць:
— Вунь бяжыць свавольнік Пецяя,
Той, што знае ўсё на свеце.
Праз вяровачку са спрытам
Скок ды скок смяюха Рыта.
А пад ёлкай ціха-ціха
Побач селі Стась і Ціхан.
На вялікім стуле Каця
Лялькцы Рэні мые плацце.
Тут малы хлапчук Сымонка
Рассмяяўся звонка-звонка.
Раптам цуда: — Дзе Кузьма?
Тут няма і там няма.
Гэта ён Марылю з Косцем
Да сябе павёў у госці.
Тут і Мая, тут і Юля,
Петрык, Юзік, Чэсь, Гануля,
Янка, Ясь, Янук з Тарасам.

---

Іх зрыфмуем іншым разам!..

## НА ДНО

### МАР'ЯН ДУКСА

**Я вішні, вусны перабблытаў.**

. . . . . . . . . .

**Бывай, бывай —**
**іду на дно.**

Ну вось... Збылося! Зноў я дома.
О родны кут! Маё сяло.
Усё як быццам бы знаёма,
І ўсё не тое, што было.

Грымяць транзістары на ранку,
Хоць салаўі свой спеў вядуць;
Па тратуарах, бы шляхцянкі,
Каровы пасвіцца ідуць.

За тры гадзіны давялося
Мне цуда ўбачыць наяву:
Богамаленная Хадосся
У клуб пайшла, а не ў царкву.

Я не магу суняць трывогі,
Не быць мне з вёскаю на «ты».
Я пераблытаў храпы, рогі,
Хвасты, лычы і капыты.

Не пазнаю, дзе шчэць, дзе грыва,
Дзе печ, дзе зэдаль, дзе акно...
Гараць душы маёй парывы,
Бывай, бывай — іду на дно.

## ЯК ЖА ЗЛАВІЦЬ?

### ХВЕДАР ЖЫЧКА

**Лянiва буду ў хмарнай золі**
**Шукаць ружовага каня.**

Забуду ўсё — пунцовы ветразь,
Ялбот, пасаджаны на мель,
Марскім прасоленыя ветрам
Ван-трапы, ванты і гафель.

Па сон-траве, па кменным шчасці
Пайду, прачнуўшыся да дня,
Сваёй каханцы ў белым плацці
Злаўлю ружовага каня.

Ён станам статны, крупам моцны,
А грыва пеніць, бы ў агні.
Яшчэ ні Ставер, ні Наўроцкі
Не гарцаваў на тым кані.

Там, дзе зарніцы цемру ліжуць,
Дзе водар мяты не прымгне,
Між конематак масці рыжай
Ён ходзіць вольна ў табуне.

Каля яго траццячка сарнай
Трымціць у страсці незямной...

— Кось-кось! —
А конь зласлівы сарпне
І знікне ў цемені начной.

Адно кабыла дзядзькі Яна,
За росным стоячы кустом,
Мне па знаёмству ў знак пашаны
Махне спагадліва хвастом!..

# ВЫБАР ПРАФЕСІІ

## АЛЯКСЕЙ ЗАРЫЦКІ

Ты можаш стаць
І парусам марскім...
І над Дняпром
Садамі зашумець...
Ты можаш стаць
Вяршыняй новых гор.

Калі вясна паткнецца на парог,
Ты выбірай найлепшую з дарог.
Перад табой бязмежныя шляхі
Ў пілоты, ў сталявары, ў пастухі.
Нядрэнна быць сякерай і пілой,
Граблямі, ступай, долатам, мятлой.
Цячы ракой, круціцца ветраком,
Імчацца па шашы грузавіком.
Стань магазінам, лазняй мый народ,
Шумі-квітней садамі з года ў год.
Суніцай на паляне можна спець,
Арэхам на арэшыне вісець,
Увысь цягнуцца гонкаю сасной,—
О колькі іх, тваіх шляхоў, вясной!..

# ЗІРНЁМ УГЛЫБ

## АЛЕСЬ ЗВОНАК

Мяне трывожыць часу каляя.
Я часта думаю аб ёй у скрусе:
Учора ліўся пошчак салаўя,
А заўтра навагодні снег цярусіць.

Скірую вока пільнае ў Сусвет —
І там, у далечы недасягальнай,
Натоўпы астэроідаў, камет

Праз тоўшчы часу з сумам развітальным
Няспынна торыць векавечны след.
О, подых эр, які ты прыцягальны!..

# ЧАТЫРОХКУТНІК

## ВАЛЯНЦІН ЗУБ

Аднойчы да нас у рэдакцыю завітала невысокая чарнявая дзяўчына і светла ўсміхнулася, бліснуўшы моцнымі здаровымі зубамі. Яе ўсмешка азарыла рэдакцыю нейкім лагодным святлом.

— Дзе мне ўбачыць таварыша Клыка? — неяк хораша спыталася яна і пяшчотна паглядзела ў мой бок.

— Я Клык,— няёмка падняўся я з-за парэпанага і досыць-такі замурзанага стала.

— У мяне да вас справа. Такая справа, што не ведаю, з чаго пачаць,— шчабятала яна, адначасова ўсаджваючыся на стул і абмацваючы маю таўставатую фігуру прыемным позіркам.— Завуць мяне Надзеяй Клычок,— стрэльнула яна ў мяне чорнымі, як вугольчыкі, вачыма, з якіх так і сыпаліся іскрынкі весялосці.— А справа ў мяне, ой, толькі не перабівайце. Я чытала аднойчы ваша апавяданне, і таму вы мне зможаце дапамагчы.

Я працую ў «Светлым шляху» трактарысткай. У мяне закахаліся Саўка-матарыст і Дзям'ян-бульдазерыст. Абодва прыгожыя, сталыя. А я як перадавая трактарыстка рашыла выйсці замуж за таго, хто сур'ёзней ставіцца да грамадскай працы. Штомесячныя паказчыкі выпрацоўкі ў іх звычайна аднолькавыя. Таму я не ведаю, каму аддаць перавагу. Дапамажыце мне. Дапаможаце, так?

— Безумоўна, безумоўна, я прыеду, пацікаўлюся,— гаварыў я, не ў сілах адвесці вачэй ад яе, можа, крышачку больш чым трэба дэкальтаванай кофтачкі і загарэлага трохвугольніка на грудзях.

— Вось дзякую. Я ў вас не памылілася. А можна мне,— яна на момант запнулася,— называць вас... цябе... на ты?

— К-к-ка-калі л-ла-лас-ка,— зусім разгубіўся я, не разумеючы, у чым справа.

Назаўтра я быў у «Светлым шляху». Спыніўся, вядома, у Надзеі. Але пазнаёміцца ні з матарыстам, ні тым больш з бульдазерыстам не паспеў. Праз дзень я вяртаўся ў Мінск. Не адзін. З цяжкасцю я цягнуў ладна напакаваны куфэрак, а побач весела шчабятала Надзейка.

Так, вы, напэўна, здагадаліся,— мая жонка.

Чатырохкутнік неспадзявана замкнуўся і ператварыўся ў дзве перакрыжаваныя прамыя.

# НЕ ЕДЗЬ ПАРАЖНЯКОМ

## ВАСІЛЬ ЗУЁНАК

Дні —
колавыя спіцы,
А час —
агонь-рысак.
Стрымай,
стрымай,
вазнічы,
Фурманку-паражняк...

Уперад —
каб са свістам,
Каб млеў здзіўлёны свет...
Стаеннікаў агністых
Заклаў у драндулет.

Дарогай —
вельмі кружна:
Сем вёрст уздоўж ракі.
Бярыце ж, коні, дружна,—
Кірую напрасткі.

Разгон —
як вокам змерыць,
Прастор — няма граніц.
А час —
эпохі, эры,

Вякі —
мільганне спіц.
І —
кінула калёсы:
Штуршок,
рывок,
уд-дар!..
У крэндзелі —
атосы,
А шворан —
аж да хмар.
Дзве восі —
ўшчэнт нагладка,
Ад ручак —
хоць бы знак...
Вось бачыце, нашчадкі,
Што значыць паражняк.

# ПАКЛІЧ

## ВОЛЬГА ІПАТАВА

Помніш? За рукі ўзяўшыся, мы ішлі
Яшчэ ў нейкім далёкім стагоддзі.
. . . . . . . . . . . . . . .
Я табе сустракаюся ў кожным новым стагоддзі.

Міналі стагоддзі, праходзілі эры,
Мяняўся пакутліва воблік зямлі,
А мы, мой каханы, праз зольную шэрань
Адно да другога дайсці не маглі.

З кім сёння ты бавіш свой час мне на гора?
Ці ты з Аэлітай страчаешся зноў?
Ці мо з пітэкантрапкай спіш у пячоры?
Ці з неандэрталкаю круціш любоў?

Трывога пячэцца, няма паратунку,
Твой воблік напевам гучыць у душы.
Дарую абдымкі, усе пацалункі,
Ты толькі ласкавае слова скажы.

Пралеглі між намі эпохі і мілі,
Шторанку туманяцца вочы слязой...
Ты клікні —
і я хоць на міг ці на хвілю,
Але прыбягу да цябе ў кайназой.

# У ДАРОГУ

## МІХАСЬ КАЛАЧЫНСКІ

Хачу ісці.
. . . . . .
Дзень добры, шлях!

Навошта доўга мудраваць?
Я шлях свой выберу наўгадкі.
Рукзак ямчэй плячом паддаць —
І ўперад рушыць без аглядкі.

Памір — прадмет надзей і мар —
Цяплом абдыме ў дзень вясенні.
Таджычка песняй пад дутар
Мяне прыветліва сустрэне.

А далей стэп і юртаў гурт.
Мільгне Алтай. У Дзіўнагорску
Прывал,— і тут праз пяць мінут
Гарачы поціск рук сяброўскіх.

Тува. Акша. Байкал. Ужур.
А вось нарэшце круг палярны.
А гэта? — вой, гнюсіны штурм:
Так благаслаўляе Запаляр'е.

Пад самалётавым крылом
Нарыльск; імчыць каюр на нартах.

Вунь мора Карскае — відно —
Карарскі мармур коле ўпарта.

Перада мной пралёг прасцяг.
Дык хто да далечы ахвочы?
Хачу — ісці.
Дзень добры, шлях...
Ад Каралішчавіч да Сочы!..

# БУЛЬБА

## ІВАН КАЛЕСНІК

**Колькі, бульба, абудзіла**
**Успамінаў у душы!**

Знаю, ў кожнага нямала
З бульбай звязана прыгод.
У жыццё яна трывала
Увайшла з дзіцячых год.

Натварыўшы шкоды ў хаце,
Я спагады не чакаў:
Ад разгневанае маці
Па бульбоўніку ўцякаў.

Беглі строем зімы, леты,
Згодна, ладна, крок у крок.
На бульбянішчы Альжбету
Пакахаў я незнарок.

А сягоння, як ніколі,
Люба мне успамінаць,
Як было прыемна ў полі
Бульбу з Магдаю капаць.

Капаў дождж за кропляй кропля,
Шышкі падалі ў бары...
Эх ты, бульба — сорт картопля,
Тры паўнюткія вядры!..

# РОГІ

## КАЗІМІР КАМЕЙША

> Я цяжка ступаў, нібы Пётр Першы.
> . . . . . . . . . . .
> Душа уся навострана, як рогі.

Калі на спатканні
Ласіныя рогі
З усмешкай каханая мне паднясе,
Я рухам ніводным
                    не выдам трывогі,
Хоць лютасць пачне забіраць пакрысе.
Душу завастрыўшы і шэпчучы вершы
Пра жорсткасць,
                    пра здраду,
                              жаночы падман,
Пайду я,
          ступаючы,
                    нібы Пётр Першы,
І хмурачы бровы, як цар Іван.

# АДНА НОЧ

ВІКТАР КАРАМАЗАЎ

Падаіўшы карову і працадзіўшы малако, ва ўладдзе салодкай трапятлівасці выйшаў я няспешна за калітку, увесь набраклы ядронай сілай.

Ціхая бралася ноч. Не шалёстаў вецер. Зямля дыхала чуйнай вечнасцю. Вялікаснабелы месяц думна цалаваў таямніча-цёплы змрок пад дзяружкай аблакоў. Неўпрыкмет закарцела цалавацца самому, бо душа знудзілася ў адзіноце. Ударыла ў голаў шалёная кроў. Таму ішоў збалелы ад прагнай надзеі.

І, нібы ўступаючы жаданню, праз цьмянасць хітнулася нейчая ломкая фігура — басанож.

Гэта ішла Луцэя. Адгукнулася згоднай душой на вярэдлівасць маёй нескладухі. Яе прагныя вочы без уздыхання і наракання глядзелі праз мяне. Ва ўладдзе духмянай надзеі шагнуў насустрач. Аж не паверыў:

— Ці гэта ты?

— Як бачыш.

Нібы даўно свая, скаланулася ў маіх руках

ласкавая і даверлівая. Ціхмана-глыбока тулілася і цупка, бо разумела акрасу маёй мужчынскай натуры.

Сустракаў да гэтага яе двойчы: на грукатлівым кацеры разам пераязджалі праз раку ды на разгойсаным «газіку» ляснічы падкінуў у раён. І хоць не ведаў, як жыла-кідалася, шчымліва-ціхае трызненне ёю тачылася незагойна. Абудзілася раптоўная даверлівасць да яе вабнай жаноцкасці.

Колькі часу мы слухалі спешліва-суладную таўкатнечу нашых сэрцаў. Прыхапкам жмакала яна ў руках хусцінку. Чулася, як аддана напінаецца яе мякка-прагнае цела.

— Колькі ў цябе дзетак? — спытаў я ў палюбоўнай размове.

— Сямёра. Але дзеля цябе я гатова на ўсё,— без пярэдыху шапталі яе губы.— Да мужыка я болей не вярнуся. Бо з табой адчула ранак апоўначы.

Я хацеў сцяць свае пачуцці, але гэта было звыш майго пажаданку. У безуладдзе душы наплываў казытлівы розваг. Шапаткая летуценнасць азаралася ружовасцю зманлівай невядомасці пра будучую жытоўку. Немінучасць яе святам абнаўлення паланіла мяне ўсяго.

Час імглівіў неўпрыкмець. На ўсходзе рана-расяная світань усміхалася таямніча і задзірыста.

# ДАКЛАДНЫ РАЗЛІК

УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ

**Наймічку таксама добра каля печкі цалаваць.**
**. . . . . . . . . . . . . .**
**Дваццаць год яшчэ можна кахаць!**

Досыць курдобаю рэпаць далоні,
Досыць з чужою малечай гібець.
Наймічка пекная, будзь блаславёна!
Я пацалую за печкай цябе.

Дай памагу павыкручваць бялізну,
Выскрабці зэдлікі, выбіць сяннік;
Разам паставім дзятве тваёй клізму
І — падрахуй з гаспадыняй разлік.

Пойдзем!
Няхай нас увагай адорыць
Лоты, Джульеты і Лесбіі зрак.
Сонца ўсясветнага лік ясназоры
Меней прыўкрасны, чым твой андарак.

Унцыя шчасця і мне перапала,
У Клубе адрынутых енкі і дым.
Грэхападзення я зведаў нямала,
Ты ж падарыла мне грэхауздым.

Дзіду з галіны Дабра адламаю,
Сэрца на ёй падніму ў забыцці...
Наймічка, ў сорак цябе я кахаю,—
Буду кахаць да шасцідзесяці!..

# ПРАЦЭНТЫ КАХАННЯ

## УЛАДЗІМІР КАРПАЎ

Самы станоўчы з усіх, як эта сказаць, герояў ухвацісты Піліп на гэты раз не доўга барабаніў у дзверы. Амаль адразу ляснула зашчапка, і хлопец пераступіў парог. Хруза як была ў даўгой начной сарочцы мілавеючы лягла грудзямі на яго левае плячо.

Такая ўвага маладухі палесціла Піліпу і ў той жа час паклала на ягоны твар водсвет збянтэжанасці. Хлопец гадзіну як вылез з цёплай Маўрынай пасцелі і яшчэ помніў, як прагная ў сваіх жаданнях славутая ўдава ўкленчыўшы абхапіла яго ногі, прыпала да іх жыватом, пачала натужна дыхаць. Тады ён быў асалапеў ад раптоўнасці, зразумеўшы, што Маўра думае забраніраваць жаніха і, нібы каралева-спакусніца, прывучае к дому.

Цяпер Піліпам авалодала самавітая задумка пра ўсё расказаць Хрузе. Рот ужо расчыніўся, каб вымавіць першае даруй, але ў самы апошні міг за сэрца ўшчыкнуў драбнюткі чарвячок:

— Навошта?

— Сапраўды навошта? — мільгнула следам азарэнне. Піліп вызваліўся з плыні сваіх нікчэмных думак. У закарвушках душы пабольшала радаснага хвалявання.

— Не буду. Амбец! — хлопец адторгнуў ад сябе Маўру і паправіў на Хрузіным плячы шлейку.— Усё, цю-цю, знікае. Успышкамі страсці трэба карыстацца. А Маўра падношаная, хоць яна і прынесла нямала харошых хвілін.

— Хруза,— голас у Піліпа дрогнуў, і хлопец горача зашаптаў: — Хруза, ты зразумей, я пакахаў цябе. Больш я не зраблю ніводнага прагулу і буду берагчы тэхніку. Абяцаю табе стаць ударнікам і выконваць вытворчыя планы на 102,1 працэнта. І яшчэ я абавязваюся ўступіць у Таварыства Чырвонага Крыжа і Паўмесяца.

Хруза згодна маргнула вачамі і адказала:

— Дарагі мой і любы Піліпок. Прадчуваючы тваё прызнанне, я запісалася ў Таварыства паляўнічых і рыбаловаў, а вытворчыя планы абавязваюся выконваць на 103,7 працэнта.

— Добра, што я не сказаў пра Маўру,— падумаў Піліп.— Хруза не будзе хваляваца і хутчэй перавыканае план. Бо каханне каханнем, а на першым месцы павінны быць абавязкі перад грамадствам.

Святло пагасла.

Піліп хапатліва адшукаў губамі пажадлівыя маладзіцыны вусны. Цалаваліся навобмацак доўга, страсна.

Смаката!..

# НАД ВЯКАМІ

## УЛАДЗІМІР КАРЫЗНА

Я на ўзгорак узлез,
Нібы на стагоддзе.

Гнаў цялят я, спрыту поўны,
Гнаў праз поле, гнаў праз лес
І на ўзгорак векапомны
Непрадбачана узлез.

Бачу цуды злева, справа:
Пхнецца сонца ў мякаць хмар,
Туманы скубуць атаву,
Рэчка хутаецца ў пар.

Тут да месца ўсё, да ладу,
Тут зрабіць я ўсё магу,
Захачу — і мігам сяду
Ў васільковую смугу.

На выгодзе, у прыгодзе
Хто захоча, хай зірне:
Дваццаць першае стагоддзе
Пад нагамі у мяне.

# АЛАДКІ

## ГЕНАДЗЬ КЛЯЎКО

> Я прыйшоў у той дом,
> Дзе гарачыя пахнуць аладкі.

Жаўтым кураняткам нам сонейка зззяе,
Праклюнуўшы ціха шкарлупіну неба.
Цябе я сустрэну чаромхавым маем,—
А больш сустракаць
мне нікога не трэба.

Мяне павядзеш ты адразу дахаты
Дарогаю новай,
Густым кветкабоем.
Дасі на сняданак
мне пульхных аладак,
Паставіш на закусь
жбанок сырадою.

Я, сыты уволю,
з застолля палезу
З адною надзеяй
І думкай адною:
Калі дачакаемся квецені бэзу,
Ты мне напячэш тады
дранікаў з лоем.

# ЗВОНКІ ВЕРШ

## ЯЎГЕН КРУПЕНЬКА

Я зраблю свісток вярбовы,
Я зраблю свісток вясновы —
Звонкі, як верш мой.

Аднакласніцу ля студні
Цалаваў я ў святы, ў будні —
Звонка чмок ды чмок.
Раз прыходжу да пастою,
Адчуваю — штось не тое:
Дзверы — на замок,
Ой, дзверы на замок!

Сумаваў я неяк мала,
Бо ўва мне бы ўсё зайграла,—
Зазвінеў, як звон.
Падсвішчу сабе на дудцы —
Падыходзьце слухаць, людцы,
Чуеце: дзінь-дон,
Ой, ды дзілінь-дон.

Прылягае к слову слова,
Верш выходзіць адмыслова,
Як жаўрук, звініць.
Верш трапеча, верш лунае,
Ажно сам я ўжо не знаю,
Як сябе спыніць,
Эх, як сябе спыніць.

# ПАСІЦЕ КАРОЎ

МІКОЛА КУПРЭЕЎ

> Я пачаў гэты верш на падлозе.
> . . . . . . . . . .
> Можна ж пасвіць кароў па чарзе.

Вядзе мяне натхненне непазбежна:
Нырну ў баладу — вынырну праз райк.
Жыве ўва мне буй Рурыч — дух мяцежны,—
Ол райт!

Я не прывык да галасу і гаму.
Замоўкніце, Рэмарк, Тувім і Кент!
Сустрэць я прагну Еву (без Адама),—
О'кэй!

Навошта пастуха наймаць,
пры гэтым
Прасіць, укленчваць, гнуцца у дугу.
Кароў прыемней пасвіць усё лета
Ў чаргу.

Хіба не люба ў час пасьбы прысесці
І паглядаць задумна навакол.
За кожным вершам тут не трэба лезці
Пад стол.

## ПРЫНЯСІ

### АЛЕГ ЛОЙКА

> Якое шчасце — абдымаць!..
> Якое — шчасце цалаваць!..
> . . . . . . . . . .
> Раджаюць незамужнія дзяўчаты.

З табой нацалаваўшыся дасхочу,
Наабдымаўшы стан твой у адвал,
Мядлівы,
нехацімцам мерна крочу,
Нібы чарговы ўзяўшы перавал.

Іду, як бог, пад вокны інтэрната,
Ў якім тонкасуконшчыцы жывуць;
З усіх акон заўзята немаўляты
Мне ўсхвалявана голас падаюць.

Якое шчасце — плач іх згуртаваны!
Якая радасць — смех іх, што званкі!
Я без сумніў усім ім бацькам стану!
Дачушкі мае родныя, сынкі-і-і!

Цябе ж, мая кабета, мая доля,
Я аб адным знясмелюся прасіць:
Як-небудзь мімаходзь праз год —
не болей
І ты ў пастанні ляльку прынясі.

# КАЛЫХАНАЧКА

## ЕЎДАКІЯ ЛОСЬ

Сынок, сынок,
бялюткі бацянок!..
. . . . . . . . . . .
Мы месім пластылін — стаіць грыбок.

Па траўцы па зялёненькай
У маечцы ў чырвоненькай
Мой гусачок і зайчычак
Ганяе борзда мячычак.
А я, яго матусенька,
Вядомая вам Дусенька,
Спяваю бай-баюсенькі,
Пляскаю лад-ладусенькі.
Ў мяне на ножках цыпачкі,
Не скочыш праз скакалачку,
Не пройдзешся пад скрыпачку,
Не топнеш пад цымбалачкі.
З маленькім мы над рэчачкай
Замесім пластылінчыку
І вылепім авечачку,
Спячэм на сонцы блінчыкаў.
Няспынна ў гулі-гуленьках
Раджаюцца рыфмуленькі,
Хай вучыць мой найпершанькі
Матуленькіны вершыкі.

# АТАВА

ВАЛЯНЦІН ЛУКША

Зазімак першы сыпле рэдкім хлоп'ем,
Задзірыста раз'яхкаўся ганчак.
Атаву я кашу на крутаўзлоб'і
І слухаю, як вохкае тартак.

Мне любы брыганціны, каравелы,
З рагаткай флібусцьер —
мой ідэал.
Але перад атаваю,
знямелы,
Глушу я свой няўрымслівы запал.

Ў ёй водар, свежасць, мяккасць,—
не кажыце!
Хоць падавай ахапкам да стала...
У гэтую б атаву —
Неферціці,—
Напэўна б, праз хвіліну ажыла.

# ПРА ХРАБРАГА ВАЯКУ ДЗЕДА БЕЗ ТАВАРЫШАЎ

МІХАСЬ ЛЫНЬКОЎ

Раскажу я вам, уюнашы, якія справы мы рабілі ў свой час, аж гула-дрыжала зямля ад спраў тых неспакойных, бунтарных ды геройскіх. Праўда, даўнавата гэта была. Час тады называўся царызмам, паганым царызмам, прападзі ён пропадам. Багатыя ў той час жылі багата, а бедныя — бедна. А які з мяне багацей? — кажух заваляшчы ды шапка худзюшчая, праўду вам скажу, нікудышная і нікчэмная, выгляд адзін, што шапка. А так — цьфу, адным словам. Праўда, служыла яна і за капшук, і за кішэню, і за пазуху. І крэсала там хаваў, бывала, і тытуню жменю ўсыплеш, а здаралася — скарынку хлеба запхнеш за подкладку. Ідзеш сабе, а ад хлеба пах духмяны, так і казыча ў носе, так і казыча. Яшчэ валёнкі больш-менш ніштаватыя, валяныя ды катаныя.

І прыходзілася нам, люду рабочаму, мазольнаму люду працавітаму, загрудкі брацца

з нечысцю рознай, буржуйскай і белапагоннай. Біў яе, усмак біў, ёлкі-палкі зялёныя, сябе не шкадуючы.

Сяджу гэта я аднойчы ў засадзе, адзіночка сяджу, на пуцявіну-каляіну гляджу на іскрыстую. Кажух мой белы не відзён за ядлоўцам заснежаным, перастылым ды наянтараным.

Сяджу,— а думкі галаву свідруюць, наскрозь працінаюць, неспакойныя, бунтарныя. Рукі самі кулямёт сціскаюць.

І раптам калона на дарозе паказваецца, варожая, нямецкая. Наперадзе афіцэр-палкоўнік гарцуе, падцягнены і рамянямі перашпілены, блішчастымі, з пазалотай. А конь пад ім віхурай круціцца, сербіянку вытанцоўвае, з усхрапам, упрысядкі.

Немцы бліжэй і бліжэй.

Хочацца палкоўніка першым на мушку ўзяць, перарэзаць чаргой кулямётнай. Але ж не. Чакай. Я цябе, гада печанага, не буду страляць, жывым схаплю. Судзіць будзем. Нашым судом, сялянска-пралетарскім. Уюном ты круціцца будзеш, лапці цалаваць мужыцкія ды чобаты рабочыя, мазутам прапахшыя, вугальным пылам прыпудраныя. І ў валёнак мой чмокнеш, не дзе дзенешся. Але ж не, не даруем, за ўсё расплацішся — за курэй пакрадзеных, за вепрукоў асмаленых, раней пары-часу жывата пазбаўленых, за спіны спісягаваныя.

І вось немцы як рукой дастаць.

Эх, і загаварыў жа кулямёт мой, на мове сваёй загаварыў, кулямёцкай. Захлёбваючыся загаварыў, скорагаворкай. Нібы радуючыся, што выгаварыцца можа, ды баючыся нібы, каб не перапынілі, не перарвалі гаворку шалёную, рогат нечалавечы. І радаваўся яшчэ, нутром сваім жалезным радаваўся, што ворагаў косіць, чужаніц праклятых, нязваных чужаніц, няклікaных.

Ніба качаны, валіліся ворагі, на снег наш падалі, чысты, некрануты. Ашаламуціўся палкоўнік, сядзеў на кані пад асінай, апруцянелы сядзеў, не ведаючы, дзе падзецца, схавацца дзе. І трэсліся яго паджылкі, рукі трэсліся акупанцкія, заграбушчыя рукі. З жахам глядзеў ён на полк свой, перабіты полк, вынішчаны.

Выскачыў я тут з засады сваёй аснежанай, рулю гарачую пад нос яму тыцнуў, пад палкоўніцкі нос, акаянны.

Злез ён паволі з каня, мяшком асунуўся, і ногі не трымаюць яго, паганца, трасуцца, падгінаюцца. Думкі ліхаманкавыя ў вачах ашклелых скачуць, у замагільных вачах.

Прывёў яго, буржуя, да партызан, хлопцаў бясстрашных, ваяўнічых.

Размова была кароткай, зусім кароткай была размова.

За кроў... за здзекі... за слёзы крыштальныя... за дзявочыя...

Сам камандзір мне руку пацiснуў.

А потым песня ўзнялася. Спачатку нясмела, а потым смялей і смялей, узляцела песня вышэй лесу, пад аблокі самыя, у прастор безгранічны, баявая песня, агняцветная...

# РАЗВАГА

## УЛАДЗІМІР ЛЯПЁШКІН

Майскі гром на сто вёрстаў кругом
Скалануў векавечныя далі...
На сцяжынцы маленства майго
Слуп бетонны глыбока ўкапалі.

Трэці год ён смугу-далячынь
Аглядае, высокі і горды.
На дратах яго ўдзень і ўначы
Вецер трапна бярэ акорды.

І калі з Церабелі вясной
Буду йсці праз чаромхі і бэзы,
Перашкоду міну стараной,
А на слуп, хоць цягні, не палезу!

## ЗАВОБЛАЧНАЕ КАХАННЕ

### ПЯТРУСЬ МАКАЛЬ

**Мне сто вякоў спаткаць цябе карцела.**

Святлом кахання шар зямны абліты.
Як зваць цябе?
Скажы адкрыта мне.
Рэбека?
Домна?
Тэкля?
Афрадзіта?..
Ты —
незямная —
ўсіх зямных зямней.

Мне сто вякоў спаткаць цябе карцела.
Я з мезазоя жыў табой адной!
Тугая ноч
твайго святога цела
Мне свеціць
асляпляльнай белізной.

На самым золкім ветры не астылі
Мае пачуцці ні наводзін міг.
Гатоў прайсці я джунглі і пустыні,
Каб утапіцца
ў бездань воч тваіх!..

## ПА НІШЧЫМНІЦЫ

**МІКОЛА МАЛЯЎКА**

> Я даражыў шпакоўняй, пер'ем.
> Я абыходзіўся штогод
> Жыццём —
> Нішчымніцаю шэрай
> Без жоўтых скалачак прыгод.

Не баючыся кары боскай,
Задраўшы нагаль дзве нагі,
Шпурнуў я смела ў кошку соскай
І вывеў гнуткае ку-гі-і-і...

Ў маёй душы — дрымотнай пушчы —
З тае пары — каторы год —
Няўтомна хтосьці песню трушчыць
Без жоўтых скалачак прыгод.

З жыцця не браў я поўнай жменяй.
Яно нясе — ў каторы раз! —
Адну нішчымную крупеню
Замест вяндліны і каўбас.

Таму і верш мой бровы хмурыць,
Яго чытаць — аж зводзіць рот:
Як быццам таркаю па скуры
Шаруе нейкі абармот.

# БАБРОВЫЯ ЛОВЫ

## АЛЕСЬ МАСАРЭНКА

Бабёр, ядры яго матары, дальбожачкі, гэтакі: добраахвотна да рук не падыдзе, хоць богам ублагай ці курапкаю ля нары станавіся. Не тое, што Леўшакоў Жук або тая Цецікава Лыска. Не-е-е...

Калі ж вам досмерці замануліся бабры і зусім няўседня бярэ, смужлівым золкам зазбірайцеся ў дарогу. Забудзьце друз будзёншчыны і заклічце тых з сябрукоў, хто адчувае бабровыя памкненні.

Важна ўнікнуць у стройнасць руху вашай кумпаніі і пагадзіцца міжсобі. Паперад, значыцца, хай навуж чыкільгікае мінавіцай Адам Луцэін, вушлы, не лыкам сцёганы хлопец. Ручы, ён у сарочцы радзіўся. Будзе млець ад насалоды, спрытнюга.

Пасяродкі лэхаць больш тычыцца Сахвеінаму байстручыну Цімку. Вы яго бачылі? Мурло саўсімацька, як у кормніка. Ладны матло і пройда несусветны, іці яго пяты.

Ляксандра, чуйце, хай дубічыць уследкі, разіньку ловіць. Усё дно нявехна абазвала яго рапухай, усюды гудзіць.

Перад вамі няхай абгойсвае балоціны добрая сучэнцыя. Але можна клікнуць любую сабачэнцыю. Асноўнае — каб яна ўмела мудра ўсміхацца і кідалася ўгалоп.

Як дачапаеце да гушчэчы, агняздуйцесе перамарыць чарвяка,— насухама. Во дзе смаката, ей-праўдачка. Не менш латва запіпчыць, седзячы на сукардычыне. Паддыхніце трохі і тахтоньце далей.

Ля Ходаравай пратокі ўсяму прычындаллю знайдзіце схованьं, навырунку нічога не кіньце, бо нейкая чмурэча краз можа спуліць брызентавы курцік ці збахрыць шчупы, а то і зусім збаёдаць лаўкі, не сысці мне з етага места.

Пошук нары пачынайце спасцярожліва. Акалпачыць зверука не проста. Ён празукаваты ў сваіх партаментах. Пад любой карчакай сядзіць як карапузік усё роўна. Дый ушчунку на яго, радзімца, няма, што заўгодна можа адчубучыць. Таму паперша трэба агледзецца і ўбачыць палазу, каб было куды ўляпётвацьं, калі пачне барабараніць лапамі.

А будзе зверука не ўбачыце — не баёдзьцеся. Забірайце прычындалле і смела зыгуйце дамоўкі. Тым больш, за самавольныя ловы 300 рублёў штрапяка — шчупянуцца не паспееце — узучаць. Па сабе ведаю. Так што кумекайце пра пальзіцельнасць...

# СОН НА СКАМЕЙЦЫ

## УЛАДЗІМІР МЕХАЎ

Ноч прайшла ў напаўзабыцці і адзіноце. Але яна гэтага не заўважыла. Толькі раніца вярнула яе да рэальнасці.

Яна ўстала з крэсла. Яна выйшла на ганак. Яна адчувала сябе ўвасабленнем хараства, паэзіі і кахання.

Дзіўна гучалі песні, ад якіх соладка шчымела сэрца. Здавалася, спявалі кветкі. Не. Гэта спявалі дрэвы. Дакладней — камары і мухі. І крумканне жаб гучала ўзнёслай музыкай.

Цудоўная раніца лёгка і нячутна ступала па зямлі, шчыра і ўсхвалявана абдымала кусты і скамейкі.

Яна спусцілася па прыступках. Яна пайшла па алеі.

Тут калісьці перасекліся іх дарогі. І сёння недзе — толькі дзе? — блукае ён, самотны і адзінокі. Але не патухлі іскрынкі — тыя самыя — у яго вачах.

Яна цяпер не думала пра сябе. Яна ўспамінала аб ім.

Як здарылася, што яны разлучыліся? Што адбылося? Чаму ў той міг не грымнуў пярун, не захісталася зямля, не згасла сонца?

Тое ж самае неба над галавой. Тая ж хвалююча звонкая цішыня. Нават спадзяванні — тыя ж самыя. І зноў песня. Песня-чаканне, песня-надзея, песня-мара. Засталося ўражанне — бяздольнае, як Курыльская ўпадзіна, каханне.

Успаміны пакутлівай чырванню пафарбавалі шчокі, шыю, вушы, увільготнілі пульхнаватыя губы і чароўна-загадкавыя вочы.

Яна ўсміхалася. Яна прыкрыла вочы рукой. Яна хацела ўзляцець высока-высока. Але неўзабаве адчула штосьці гарачае ў грудзях і нейкае кружэнне ў галаве.

Гэта падступаў сон.

Яна павалі падышла да скамейкі. Яшчэ павольней апусцілася, нават не расправіўшы пад сабой сукенкі. Хваляванне ўспамінаў больш не кратала яе.

Галава апусцілася на левае плячо. Вочы засланіся чымсьці светла-шэрым уперамешку з блакітным. Нібы здалёк, даходзіла да яе ўласнае дыханне — дыханне закаханай істоты, чый арганізм набрыняў таямнічымі сокамі.

Звінелі камары.

Крумкалі жабы.

Каханне панавала над светам...

# ЛІСТ З АЛЕЙНАЙ ГУТЫ

ВАЛЯНЦІН МЫСЛІВЕЦ

Здрастуй, Валька. Чаму ты гэтак неспадзеўкі даў ад мяне цягаля? Мы ж маглі б зрэдзь рабіць з табою спатканнь. Няўжо ты адважыўся палічыць мяне за нейкую кіянку! Я, ты ж ведаеш, з хлопцамі заўсёды была дзікая, самадзейнага кахання не прызнавала і шалаў ніякіх не дапускала, хоць не адзін з вашага брата намерваўся зафармаваць са мною любошчы. З трэцяга класа шуфляваў у мой бок Пецька, але я заставалася незгамонлівай. Блізка шасці год тылаваў Санька, бегаў нягодзькаю і таксама зрэзаўся аб наждак майго сэрца. А калі накруціўся Васька і пачаў кідаць пад мяне бабышкі, ён атрымаў ад варот паварот.

Толькі ўбачыўшы цябе, я сказала: вось каму я аддам рэле майго кахання. Першая сустрэча з табой колкімі пырскамі працяла маю душу. І ты мяне адразу прыкмеціў. Нашы ўзаемаадносіны неўзамець пераключы-

ліся з першай хуткасці на чацвёртую. Я савела да знямогі, бо лічыла, што завязала дружбу вечную і знайшла ідэала.

Але звяла цябе Сонька, бо яна ўмее падаць сябе як належыць — і вейкі падмалюе, і настаўбуніцца так, што заўсёды нібы нахлашч. А ты і вызарыўся, бо ўсе вы, мужыкі, аднолькавыя. Падкінула яна табе габлюшку, і ты буркуеш цяпер ля Сонькі, але хутка пойдзеш не солана хлябаўшы, бо яе калярыферная сістэма пастаянку не церпіць.

У плуг бы запрэгчы тваю Соньку ды пугай харашэнька, пугай, бо ў яе даўно ад'ёмка не на месцы.

Канечне, табе падабаецца гульня ў каханне. Ну й няхай. Я настырацца не збіраюся. Чарнілам пасцелі не зальлю, неяк заседжаный у дзеўках пракідаюся, хоць голас мой часта зрываецца і я не магу звесці вачэй да світанку, бо адвыкаць ад цябе ўшчэрбіста.

Калі надумаеш, прыязджай. Узрадуюся сустрэчы з табой. І яшчэ цісну твае налітыя далоні.

Будзь здароў.

Заўсёды твая Тэкля Хамутыкіна.

1 апрэля гэтага года.

# ЖОРСТКІ РАМАНС

## АЛЕСЬ НАЎРОЦКІ

> Зноў мухі будуць бзымкаць сонна
> за павуцінным мутным шклом.

О муха, муха, сум і восень
Душу мне кроящь, як звяр'ё.
Адно ў жыцці мне засталося —
Святое бзымканне тваё.

Прысядзь ка мне, не бойся, муха,
На палец босае нагі.
Я раскажу, а ты паслухай
Мае жыццёвыя кругі.

Ад сукавата-шэрай муці
Асіна хіліцца ў журбе.
Мае аблезлыя пачуцці
Няхай не кратаюць цябе.

Усім чужы, на гэтым свеце,
Як прыдарожны куст, жыву.
Наскрозь прадзьмуў чарвівы вецер
Маю крутую галаву.

Туман развесіў шаты нудна,
На сэрцы здрадлівая ноч,

Слата імжыстая паўсюдна,—
Куды сябе мне павалоч?!.
Зноў, як груган, віецца скруха
І прагна цягне ў небыццё.
Туга... Адчай...
Адна ты, муха,
Са мною пройдзеш праз жыццё!..

# НА ЗАХАД І НА ЎСХОД

РЫГОР НЯХАЙ

> Будую дом —
> Пагода, непагода.
> Акно на захад
> І акно на ўсход.

Будую дом. Бярвенне стогне глуха,
Калі я майку скіну і калі
Сякера, узлятаючы з-за вуха,
Кантуе непадатныя камлі.

Будую дом нябачаных памераў,
Печ — у кутку,
А грубка — пасярод.
На поўдзень — дзверы,
І на поўнач — дзверы.
І два акны — на захад і на ўсход.

